

Гaзeта заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

Пейджинговую связь "ГС" обеспечивает НП ООО "Защита-Сервис". ТЕЛЕФОН В Г.ГРОДНО (8-22)-75-00-66, В Г.СЛОНИМЕ 2-64-44.

# Газета Слонімская

№38 (224). 20 — 26 верасня 2001г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 200 руб.

ЧЕШСКИЙ ЖУРНАЛИСТ НАЗВАЛ БЕЛАРУСЬ "ПЕЧАЛЬНОЙ" СТРАНОЙ



ПО КОМ ПЛАЧУТ СТЕНЫ КОСТЕЛА?

НЕЗАВИСИМЫЕ НАБЛЮДАТЕЛИ СВИДЕТЕЛЬСТВУЮТ О ТОМ, КАК ПРОХОДИЛИ ВЫБОРЫ ПРЕЗИДЕНТА



ПОМНІК СЛАВУТАМУ АГІНСКАМУ АДКРЫЛІ Ў МАЛАДЗЕЧНА

# ХУСТАЧКІ...



Пятроўны, Васільеўны, Мікалаеўны... Час бяжыць нястрымна хутка, што нават асэнсаваць мінулае вам не заўсёды ўдавалася. Бо працавалі, працавалі... І вось прыйшла пара пенсіі. Здаецца, жыві цяпер у сваю асалоду: дзеці вызначыліся, а ўнукі падрастаюць. Аднак замест таго, каб бавіць час у доме адпачынку альбо паехаць паглядзець замежны люд, як гэта робяць вашы аднагодкі ў іншых краінах, вы, нібы завадныя лялькі, у сваёй большасці прэцеся на дзялкі.

Раз на месяц у вас свята — дзень, калі даюць на рукі пенсіённыя рублі. Потым грошы доўга размяркоўваеце, каб хапіла да наступнага разу. Раз-пораз вам кажуць, што пенсію дабавілі, а тым часам імгненна ў крамах цэны падраслі. Таму, як на выставу, ходзіце ў магазін паглядзець тое, што ляжыць на прылаўках, а купіць, як прыйдзецца. І так год за годам... І не заўважаеце, што самы што ні на ёсць прадукт, які хутчэй за ўсё псуецца — гэта час.

**Фота Віталя ГІЛЯ**



КРЫХУ ГІСТОРЫІ...

10 ГАДОЎ ТАМУ, 19 ВЕРАСНЯ, СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ ЗАЦВЕРДЗІЛА НАЗВУ "РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ", ГЕРБ "ПАГОНЯ" І БЕЛА-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ.

## ПРОГНОЗ ПОГОДЫ

по Гродненской области

**20-21 СЕНТЯБРЯ**

Облачно с прояснениями, местами кратковременный дождь, гроза, ветер южный 4-9 м/с. Температура воздуха ночью +10+15, днем +14+19

**Облгидрометеоцентр**

НАВІНЫ

## МАЛЯРИЮ ПРИВЕЗ ИЗ МОСКВЫ

**В Гродно зафиксирован случай заболевания малярией.**

Как сообщил БелаПАН заведующий отделением паразитологии и медицинской энтомологии Республиканского центра гигиены и эпидемиологии Андрей Веденьков, местные специалисты вовремя приняли адекватные меры по профилактике распространения малярии, и в настоящее время передачи инфекции не ожидается. По его словам, особенность этого случая состоит в том, что малярия была завезена из Московской области — региона, который не входит в число неблагополучных.

Ежегодно, как отметил заведующий отделением, в республике регистрируется до 20 случаев заболевания малярией, завезенных, в основном, из стран Африки, Азии, а также южных республик СНГ — Азербайджана, Таджикистана, Казахстана и Узбекистана.

**Ольга ОСИПЕНКО**

## АДПОМСЦІЛІ МАЦІ

**Пазбаўлена пасады завуча СШ№5 г. Масты Зінаіда Васільеўна Сабасцян.**

Нягледзячы на тое, што жанчына год як знаходзілася на пенсіі, ніякіх прэтэнзій да яе працы з боку раённага аддзела адукацыі не было. Наадварот, і сёлета Зінаіда Сабасцян была адзначана як лепшы спецыяліст у раёне. Як было патлумачана, яна магла працаваць на гэтай пасадзе і надалей, каб не дзейнасць яе сына. Юрый Сабасцян з'яўляецца праваабаронцам. Ён узначальваў раённы штаб па збору подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты РБ Сямёна Домаша.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

Курсы обмена валют в г.Слониме по состоянию на 18 сентября 2001г.

| "Приорбанк" | | |
|---|---|---|
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1465 | 1515 |
| 1 DM | 635 | 700 |
| 1 RUR | 49 | 51 |
| **"Беларусбанк"** | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1480 | 1520 |
| 1 DM | 645 | 698 |
| 1 RUR | 49 | 51 |
| **АК "Белпромстройбанк"** | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1475 | 1510 |
| 1 DM | 650 | 700 |
| 1 RUR | 49 | 51 |
| **"Белагропромбанк"** | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1485 | 1505 |
| 1 DM | 640 | 670 |
| 1 RUR | 48 | 50 |
| **Нацбанк РБ** | | |
| 1 EURO | 1364.07 | |

Цены на слонимском рынке по состоянию на 18 сентября 2001г

| Продукт | Цена за кг |
|---|---|
| Груша | 500 |
| Бананы | 1100 |
| Апельсины | 1800 |
| Яблоки | 100 |
| Огурцы | 700 |
| Помидоры | 650 |
| Капуста | 300 |
| Морковь | 450 |
| Лук | 50 — 450 |
| Чеснок | 1500 |
| Картофель | 200 |
| Молоко | 230 |
| Творог | 800 |
| Масло | 3000 |
| Яйца | 900 — 1000 |
| Свинина | 4000 |
| Говядина | 3500 — 3800 |
| Баранина | — |
| Сало | 2500 — 2900 |
| Телятина | 3800 — 4000 |
| Мед | 6000 |
| Персики | 2000 — 2400 |
| Лимоны | 1500 — 1900 |
| Арбуз | 400 |

# НАРОД ПАЙШОЎ КАПАЦЬ БУЛЬБУ




**"Не сагнешся ў бульбу — не скапаеш бульбу", — так напісаў у адным са сваіх вершаў Алег Лойка. Магчыма не ўсе навучэнкі Слонімскага ПТВ-129 ведаюць гэтыя радкі, а вось бульбу збіраць яны ўмеюць. Сёлета на ўборцы "другога хлеба" заняты 240 навучэнцаў з нашага вучылішча. У асноўным яны працуюць у калгасах "Дружба", "Сасноўка", "Кастрычнік" і "Уперад", — сказаў карэспандэнту "ГС" дырэктар вучылішча Сяргей Радзішэўскі. Сорак маладых дзяўчат і хлопцаў з вучылішча ў мінулую пятніцу завіхаліся на бульбяных палетках калгаса "Дружба". У дзень, у сярэднім, кожны з іх збірае амаль па 500 кг клубняў. За адну тону сабранай бульбы калгас плоціць ім каля 4200 рублёў.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**




МНЕНИЕ

# "НЕ ТУ СТРАНУ НАЗВАЛИ ГОНДУРАСОМ..."

Вот и закончилось крупномасштабное шоу в Беларуси под названием "Выборы президента". Лично у меня не было никакой веры в то, что результаты голосования будут другими. Но была надежда, что наш народ сделает правильный выбор. Ничего не получилось... Решили, что лучшей кандидатуры в президенты, чем Александр Лукашенко, на сегодняшний день нет. Как выразилась одна женщина в телефонном разговоре со мной: зарплату вовремя выдают, обуты, одеты ходим, войны нет, а что еще нужно?

Больно, обидно за наш народ.

Мне было интересно, а что чувствуют после выборов мои друзья? Я обратилась к ним со скромно-осторожным вопросом: ну, как? Вот, что услышала:

"Вчера, 10 сентября, были похоронены надежды наиболее прогрессивной части населения нашей страны, — написал в письме мой друг, журналист. — Сегодня мы идем в посольство за визами. 7 лет колхоза мы уже пережили, впереди — еще пять. Ты спрашиваешь, как мы провели ЭТОТ день?.. Сергей долго молчал. А потом разразился тирадой об эмиграции. От гражданства он отказываться не собирается. Алиска всплакнула. Я лишний раз укрепился в мысли уезжать отсюда. Революции тут, как и ожидалось, не было. Со всеми все в порядке, все живы, здоровы.

Послушав результаты выборов, мы пошли домой. Пили грог, слушали белорусскую музыку. Ночью снились кошмары. Ощущение такое, будто это все не в реальности происходит. Больше сказать нечего. Надеюсь, что у нас еще будет возможность увидеться".

Подруга Женька, услышав мой вопрос, изрекла: "Я на днях была в одной организации, так там висит листик с надписью: "Не ту страну назвали Гондурасом". Это точно. Больше ничего сказать не могу".

Еще один мой знакомый посоветовал хорошее средство избавиться от грусти, обострившейся после выборов. "Послушай, — говорит, — песню "Show must go on" ("Шоу должно продолжаться"), одну из последних Фредди Меркури из группы "Queen". Человек умирал, а пел, что шоу должно продолжаться".

Мой чешский коллега Владимир Слодек написал мне, что в Чехии Беларусь называют "печальной страной".

Много ответов в тот день я услышала на свой вопрос "ну, как?". Почти все сводились к тому, что нужно набраться сил, затянуть ремни и потерпеть еще пять лет. Интересно только, будут ли все это время мои друзья жить в Беларуси или уедут куда-нибудь из "печальной страны"?

Шоу продолжается...

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

P.S. Хотелось бы услышать мнение других людей. На вопрос: "Довольны ли вы результатом президентских выборов?" может ответить любой желающий, позвонив по тел. 2-14-39, 2-49-39 или 8-22-73-00-00 для абонента 95196. Анонимность всем гарантируется.

НАВІНЫ

## ПРЭЗІДЭНТ РАСШЧОДРЫЎСЯ

**Савет фонду прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры і мастацтва выдзеліў фінансавыя дапамогі Слонімскім установам культуры.**

На набыццё асвятляльнай, гукаўзмацняльнай апаратуры і аднаўлення сцэны выдзелена 10 млн. рублёў мясцоваму раённаму дому культуры.

А 6 млн. рублёў на набыццё музычных інструментаў атрымае СШ № 8.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## МАЗУТ ОЦЕНЕН ПО-НОВОМУ

**В Беларуси повышаются цены на дизельное топливо и мазут на 4,7 и 7,7 процента соответственно. Об этом сообщили в правительстве республики.**

Теперь 1 литр дизельного топлива на АЗС концерна "Белнефтехим" будет стоить 440 рублей, а тонна мазута — 153 тысячи рублей. Основной причиной повышения цены на вышеназванные нефтепродукты явилось повышение цены на российскую нефть, а также некоторое понижение курса белорусского рубля по отношению к доллару США.

Последнее повышение цены на нефтепродукты было 14 августа текущего года.

**Виктория МЕЖИЕВА**

## ПОДОРОЖАЛО ТАКСИ

**Вступило в силу постановление Министерства транспорта и коммуникаций, которым в Беларуси вновь повышены тарифы на перевозку пассажиров легковыми такси.**

Теперь стоимость одного километра пробега и посадки в такси в дневное время (с 6 до 22 часов) составляет 310 рублей (было 295), одного часа простоя при включенном таксометре — 3.100 рублей (ранее 2.950 рублей). В ночное время (с 22 до 6 часов) километр пробега и посадка в такси обойдутся пассажиру в 465 рублей (было 440 рублей). Стоимость одного заказа такси составит 300 рублей.

**БелаПАН**

## "МІР" З ДЫНАЗАЎРАМІ

Фота Віталя ГІЛЯ

**У слонімскім кінатэатры "Мір" дэманструецца выстава дыназаўраў.**

Для гледачоў арганізатары прадставілі пяць чучалаў жывёл, якія вымерлі на Зямлі 65 мільёнаў гадоў назад. Гэта — спіназаўр, трыцэратопс, стэгазаўр, тэрадактыль і альбертазаўр.

Беларуская энцыклапедыя сведчыць, што дыназаўры ў свой час важылі ад 3 кг да 136 тон (ультразаўры), а даўжыня іх дасягала да 30 метраў. Росквіт дыназаўраў адносіцца да юрскага перыяду, тады на Зямлі налічвалася 600 відаў гэтых жывёл.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

## ПАЙШОЎ І НЕ ВЯРНУЎСЯ

**Жыхар вёскі Задвор'е Стаўбцоўскага раёна грамадзянін М. звярнуўся ў Дзятлаўскую міліцыю і папрасіў дапамогі.**

Справа ў тым, што два месяцы назад пайшоў з дому і да гэтага часу не вярнуўся яго 46-гадовы брат, які жыў у пасёлку Навальня, што на Дзятлаўшчыне.

## ПАГРЭЛА КАБЕТА РУКІ

**Высвятляецца, што грамадзянка В., якая працавала загадчыцай склада гаруча-змазачных матэрыялаў і запчастак у адной з гаспадарак Дзятлаўскага раёна, украла тавара-матэрыяльных каштоўнасцей на суму 1.786.653 рублі.**

Цяпер ёй зацікавіліся праваахоўныя органы.

## ПЕРАВЯРНУЎСЯ КАМБАЙН

**На ўчастку дарогі Боцькавічы-Панікарты Дзятлаўскага раёна памочнік камбайнера калгаса "Беларусь" грамадзянін С., знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, ехаў на камбайне "Дон-1500".**

Падчас руху не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і перавярнуўся. У выніку, трыццацігадовы грамадзянін Т., які знаходзіўся ў кабіне ў якасці пасажыра, ад атрыманых траўмаў памёр на месцы.

## ЗАГІНУЎ ВА ЎЛАСНЫМ ДОМЕ

**У вёсцы Азяраны Дзятлаўскага раёна ў адным з дамоў узнік пажар. Прыехаўшыя на месца здарэння пажарныя выявілі труп гаспадара, грамадзяніна С.**

Агнём пашкоджаны сцены дома, ложак, пасцель. Прычына пажару высвятляецца.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## ВАЛ РАЗАРВАЎ СЛЕСАРА

**Падчас абслугоўвання мабільнай дальнай установкі загінуў 38-гадовы слесар калгаса "Перамога" Слонімскага раёна Сяргей Жук.**

Установка знаходзілася на пашы. Мужчына па нявысветленых абставінах трапіў пад вал, які перадаваў рух установкі, і быў разарваны, літаральна, на часткі.

Прычыны здарэння высвятляюцца. Узбуджана крымінальная справа.

## ЗГАРЭЎ АЎТОБУС

**На Чырвонаармейскай вуліцы ў Слоніме згарэў прыватны аўтобус "DAF".**

Ён належаў аднаму з мясцовых прадпрымальнікаў. Прычына пажару высвятляецца, але найбольш верагодна версія, што аўтобус нехта спецыяльна падпаліў.

Узбуджана крымінальная справа.

## ЗАБІЛА ЦЫГАРЭТА

**У летняй хаце на вуліцы Міцкевіча ў Слоніме загінуў у агні 49-гадовы мужчына.**

Прычынай пажару стала непатушаная цыгарэта.

## "ФОЛЬЦСФАГЕН" У АГНІ

**На Гандлёвай вуліцы ў Слоніме згарэў мікраўтобус "VW-транспарцёр", 1986 года выпуску.**

Агонь узнік пасля таго, як уладальнік аўтамашыны пакінуў у салоне непатушаную цыгарэту.

Сяргей ЧЫГРЫН

# ГОД 1831 НА ДЗЕНЬ ВЯРНУЎСЯ Ў ВАРШАВУ

**170 гадоў таму назад у Польшчы і на Беларусі зноў успыхнула вызваленчае паўстанне супраць царызму. На падаўленне мяцяжу былі кінуты адборныя войскі Расійскай імперыі, і яны сваю місію выканалі, прайшоўшы знішчальным паходам ад Вільні да Варшавы.**

Менавіта на рэканструкцыю апошняй бітвы ў сталіцу Польшчы з'ехаліся 9 верасня ваенна-гістарычныя клубы з Літвы, Беларусі, Польшчы і Расіі. Ад нашай краіны па запрашэнню муніцыпалітэта Варшавы і польскага міністэрства абароны прымала ўдзел 40 чалавек. Сярод іх былі і двое слонімцаў: Андрэй Астапенка і Міхаіл Харчанка.

Валерый КАВАЛЕНКА,
Андрэй АСТАПЕНКА (фота)



*Маршам па вуліцах старой Варшавы*

ПРЫВАТНАЕ АБВІНАВАЧВАННЕ

# ЁН МЕЎ ЗУБ

**Гісторыя, якая прапануецца вашай увазе, адбылася ў канцы мінулага года ў Слоніме. У судовай практыцы падобныя справы класіфікуюцца як "прыватнае абвінавачванне".**

Спецыфіка іх у тым, што пацярпелы ў ходзе судовага разбіральніцтва павінен сам даказаць суду, што ён сапраўды пацярпеў ад таго ці іншага чалавека або групы асоб. Ні міліцыя, ні пракуратура па такіх справах расследаванне не праводзіць. Пацярпелы піша заяву ў суд, прадастаўляе неабходныя доказы. Абвінавачваемы, у сваю чаргу, абараняецца, а суддзя пры гэтым выступае яшчэ як бы і ў ролі следчага. Як правіла, па прыватнаму абвінавачванню праходзяць блізкія сваякі, сябры ці калегі па працы, якія не змаглі ці не захацелі вырашыць канфлікт паміж сабой ціха-мірна.

Але вернемся да нашай гісторыі.

Жыццё ў сям'і не заладзілася. Пасля разводу муж праз нейкі час пераехаў на прыватную кватэру, пакінуўшы ў каператыўнай двухпакаёвцы жонку і дарослага ўжо сына, які "прыняў бок маці". Але ў спакоі іх не пакінуў. Час ад часу наведваўся ў былую сям'ю і ўчыняў скандалы з "высвятленнем адносін", і тады маці ўжо і яе сыну прыходзілася далёка хавацца сякеру.

У той снежаньскі вечар Лаўровіч быў асабліва не ў гумовы. Пасля працы ён вырашыў адведаць "сваіх". Але калі прыйшоў "дамоў", то замест жонкі застаў у гасцях у сына яго сяброў, якія ладзілі вечарыну. Без доўгіх тлумачэнняў ён загадаў маладым людзям вымятацца з кватэры. Пяцёра хлопцаў і дзве дзяўчыны пасьпашаліся разысціся. Пакуль большасць з кампаніі хутка прыбірала посуд са стала, 20-гадовы Кастроў са сваёй сяброўкай падаліся да выхаду. Калі хлопец ужо нахіліўся абувацца, ззаду нечакана атрымаў удар гаспадара. На шум выбеглі малады Лаўровіч і яго 18-гадовы сябар Цяпінскі. Завязалася бойка. Разляцелася шкло ў дзвярах спальні. Кавалкам шкла раз'юшаны гаспадар параніў Цяпінскага і свайго сына. Сам страціў адзін зуб, а другі ад атрыманага удару пачаў хістацца. Калі ж былы сем'янін, нарэшце, пайшоў і госці пачалі пакідаць гэты зусім негасцінны дом, малады Лаўровіч папрасіў дваіх сяброў, якія непасрэдна не прымалі ўдзелу ў сутычцы, затрымацца, бо баяўся, што бацька можа вярнуцца з сякерай, і тады ён ужо зусім не хацеў бы заставацца з ім сам на сам.

Але да сякеры не дайшло. Лаўровіч пазваніў у міліцыю. Туды ж звярнуліся Кастроў і Цяпінскі. Калі па названаму адрасу прыбыў нарад, то міліцыянеры, як гэта часта бывае, забралі, каго засталі ў кватэры, тых дваіх маладых людзей, хто, як кажуць, ні сном, ні духам. Гэтая памылка, зрэшты, хутка выявілася. Лаўровіч жа пазней напісаў заяву ў суд з просьбай разабрацца і пакараць вінаватых. Маўляў, у сваёй хаце (юрыдычна гэта і яго дом) без зуба застаўся. Абвінавачваў ён Кастрова і Цяпінскага. Да свайго сына, які таксама "прыклаў руку", прэтэнзій не меў, бо той "хоць і дрэнны, але ж сын". І як ні сталіся сваякі хлопцаў уладзіць усё па-добраму, як ні ўгаворвала суддзя не даводзіць справу да судовага вырашэння — Лаўровіч быў непахісны. Яму патрэбна было, каб "маладыя зналі". У выніку — пакаранне: Цяпінскаму 60 гадзін грамадскіх работ (па 4 гадзіны ў дзень), Кастрову, які на той момант служыў у войску, — месяц арышту...

**Ад аўтара.**

*У гэтай гісторыі я не называю сапраўдныя прозвішчы герояў і пакідаю чытачам права рабіць свае высновы і каментары. Хацелася б толькі дадаць, што суддзі між сабой падобныя справы называюць "палітычнымі". Не з-за палітыкі, вядома. З-за іх псіхалагічнай цяжкасці. А тыя, хто ўжо сёння гатовы абвінавачваць жонку, мужа, сына, сябра ў судзе, падумайце: а ці нельга ўладзіць канфлікт па-іншаму?*

Мікола КАНАНОВІЧ

# ГРОШАЙ ХАПАЕ ТОЛЬКІ НА ЕЖУ

**На чарговым пасяджэнні Мастоўскага райвыканкама разглядалася пытанне "Аб насычэнні рынку таварамі народнага спажывання і разлікам з пастаўшчыкамі".**

З гэтай нагоды райвыканкам з зайздросным пастаянствам штогод заслухоўвае райспажыўтаварыства. У гэты раз справаздачу трымаў яго новы кіраўнік Іван Александровіч. Былы—Мікалай Шэўчык — два месяцы таму назад зволіўся па ўласнаму жаданню. Як сцвярджаюць дасведчаныя людзі з райвыканкама і райспажыўтаварыства, напачатку 2001 года наконт старшыні райвыканкама Аляксандра Кісялёва і кіраўніка райспажыўгандлю Мікалая Шэўчыка была ўзбуджана крымінальная справа адносна недабрасумленных аперацый па закупцы ў насельніцтва бульбы і продажу яе расійскім камерцыйным структурам. Справа была закрыта. Аляксандр Кісялёў за "дабрасумленную працу" атрымаў ордэн Пашаны, а Шэўчык перайшоў на працу ў іншае месца.

На прайшоўшым пасяджэнні былі агучаны лічбы, якія ўвідавочкі канстатуюць, што мастаўчане катастрафічна бяднеюць. Сярод раёнаў Гродзенскай вобласці па тэмпах росту тавараразвароту Мастоўскі раён займае 17 месца. У самой структуры тавараразвароту 82,7 % належыць харчовым таварам, а іншым толькі—17,3%. Паліцы сельскіх крамаў райспажыўтаварыства пустыя. У таварыства няма грошай на закупку тавараў. Крэдыторская запазычанасць таварыства складае болей за 800 мільёнаў рублёў. У дакументах пасяджэння было пазначана, што "таварыства займаецца адшуканнем дадатковых таварных рэсурсаў". Як зазначыў адзін са спецыялістаў райспажыўгандлю, каб былі грошы, то набыць можна ўсё, што заўгодна.

Язэп ПАЛУБЯТКА

НА ВАЙСКОВАЙ ХВАЛІ

## КРЫХУ "РАССЛАБІЛІСЯ" ПАСЛЯ ВУЧЭННЯЎ

**Першага верасня чацвёра ваеннаслужачых 350 гвардзейскай механізаванай брыгады самачынна пакінулі раён вучэнняў (Дрэтуньскі палігон).**

Маючы пры сабе зброю, яны накіраваліся ў вёску Палата. Спачатку там добра пап'янствавалі, а потым учынілі бойку з жыхаром вёскі. А калі вярнуліся ў падраздзяленне, то збілі яшчэ свайго саслужыўца. Камандаваннем праводзіцца расследаванне.

## АРТЫЛЕРЫСТ ЗБЕГ У МАСКВУ

**У апошні дзень лета ў 1199 рэактыўным артылерыйскім палку 28-га армейскага корпуса не далічыліся аднаго салдата.**

Як аказалася, радавы Санюк І.Н. збег у Маскву і да апошняга часу знаходзіўся ў амбасадзе Беларусі. Прычыну самачыннага астаўлення месца службы салдат растлумачыў тым, што ў вайсковай часці з яго здзекаваліся.

## ВОЙСКА ГАЛАСАВАЛА ЗА ЛУКАШЭНКУ

**Па дадзеных абласной выбарчай камісіі непасрэдна ў злучэннях і вайсковых частках 28 армейскага корпуса было ўтворана 10 выбарчых участкаў.**

З 6 687 выбаршчыкаў на гэтых участках 87,8% прагаласавалі. У лепшы бок па арганізацыі і правядзенню выбараў з пункту гледжання дзеючай улады адзначаны 6 і 50 механізаваныя брыгады і 111 артполк. Там "ЗА" Лукашэнку наступныя паказчыкі: 94,6%, 87% і 94,2% адпаведна.

## НАКОЛЬКІ АДУКАВАНЫЯ НАШЫЯ САЛДАТЫ

**Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у аддзяленні выхаваўчай работы 11 механізаванай брыгады, сёлета ў злучэнне прыйшло 211 маладых салдат.**

Вышэйшую адукацыю з вясенняга прызыву маюць 18 чалавек, або 8,5% (у мінулым прызыве — 4,6%), няскончаную вышэйшую адукацыю — 3 салдаты, 1,4% (2,6%). Скончылі тэхнікум — 31, або 14,7% (3,6%), СПТВ пасля 11 класаў — 32, 15,1% (25,8%), СПТВ пасля 9 класаў — 95, 45% (14,5%). Сярэднюю адукацыю маюць 23 маладыя воіны, або 10,9% (20,8%), а няпоўную сярэднюю — 9, 4,2% супраць 27,8% у мінулым прызыве.

Такім чынам, агульнаадукацыйны ўзровень слонімскіх вайскоўцаў прыкметна вырас, але — за кошт навучэнцаў СПТВ.

Валерый КАВАЛЕНКА

Газета Слонімская
20 — 26 верасня 2001г. №38 (224)

# ВОТ ТАКИЕ У ВЛАСТИ ПРИОРИТЕТЫ




*Лидия Балышева в почти своей квартире*

"Жилье – это уютный дом и теплый очаг для каждой семьи и нуждающихся граждан. Жилье – это не только крыша над головой. Это прочная и здоровая семья. А здоровая семья – это женщина, женщина-мать, женщина-хозяйка. А здоровая женщина – это здоровые дети, здоровое общество, нация. Поэтому поддержка и уважение женщины в нашем обществе станет первостепенной задачей." Это – один из приоритетов предвыборной платформы Александра Лукашенко.

Логично было бы предположить, что на этом строилась и вся предыдущая политика властей. Ан, нет. Заявления – сами по себе, а практика – дело совершенно иное. Вот, казалось бы, приватизация государственного жилья уже никакого недоверия не вызывает и проходит, вроде бы, справедливо. Да, видно, не всегда.

В "ГС" обратился житель Слонима Евгений Поздняков со своей обидой на действия местных властей. А дело, собственно, в том, что в начале этого года Евгений Георгиевич решил приватизировать две квартиры (свою и своей матери), которые находятся в доме №15 по улице Войкова. Дом этот был построен еще в конце девятнадцатого века. Согласно ответа из Слонимского городского унитарного предприятия жилищно-коммунального хозяйства от 13 апреля, "балансовая стоимость дома составляет 6.486.490 рублей. Износ дома – 100%. Поэтому, при обращении граждан на приватизацию, квартиры будут переданы жильцам безвозмездно".

После этого Евгений Поздняков начал сбор необходимых документов: справки из бюро технической инвентаризации и домоуправления, акты оценки квартир. А эти бумаги стоят денег. Но самое интересное началось при повторной оценке износа дома. Он, оказывается, уже не на 100% изношен, а только на 50. И такая метаморфоза стала возможной из-за того, что даже при семидесятипятипроцентном износе жилища людям необходимо предоставлять новые квартиры. А где же ты их в Слониме свободные найдешь?

Так что пришлось Евгению Позднякову и его матери, Лидии Балышевой, проработавшей учительницей 36 лет, оплачивать оставшиеся 50% чеками "Жилье". А люди они не такие уж богатые и, продав эти чеки, могли бы вырученные деньги пустить на ремонт тех же квартир. Ведь последний раз капремонт в них проводился в 1981 году, а для более чем столетнего дома это все равно, что никогда.

Так как же быть с приоритетами в жилье и отношением к женщине, если и развалину (в техническом отношении) норовят продать? А какие могут быть условия жизни с печным отоплением, без газа и водопровода? А вот ведь – живут люди. И сколько их еще в Слониме – просто махнувших рукой на свою неустроенность. Вот такие у власти приоритеты.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

# Паўстагоддзя дыхаюць пылам

***"Паважаная рэдакцыя "Газеты Слонімскай".***

*Магчыма, вы здолееце дапамагчы нам. Жывем мы на вуліцы Цагельнай ужо 50 гадоў. Калісьці тут не было ні электрычнага святла, ні вадаправоду, людзі жылі нават у зямлянках.*

*З часам жыццё наладзілася. Але большасць работ па правядзенню асвятлення, вадаправода, прыроднага газу была зроблена за сродкі жыхароў нашай вуліцы. Адзінае, што зрабілі ўлады, дык гэта — планіроўку. Бо да таго вада пасля дажджу ішла па агародах.*

*Зараз жа неабходна, калі не заасфальтаваць, то засыпаць вуліцу шчэбнем і зрабіць каналізацыю. На ўсе нашыя запыты ў Слонімскі жылкамгас спадар Зубко адказвае, што няма грошай. А тым часам улетку мы задыхаемся ад пылу. Большасць з нас — людзі ўжо немаладыя, і вось такія ў нас клопаты аб ветэранах і інвалідах працы.*

***З павагай, Мікуліч, Мароз, Акуліч, Маркач і іншыя жыхары Цагельнай вуліцы."***

Ад рэдакцыі:

Праблема, узнятая нашымі чытачамі, не новая, але не менш з-за гэтага набалелая. Не адныя толькі жыхары Цагельнай вуліцы пакутуюць ад пылу летам і ад гразі ва ўсе астатнія поры года. У такіх умовах жывуць і на вуліцы Танкістаў, і ў Рышчыцах, і ў Альбярціне.

Ды толькі ў мясцовых уладаў грошай на асфальтаванне гарадскіх вуліц няма. Як няма іх і на падтрыманне ў належным стане ўвогуле ўсіх дарог у Слоніме. А дзе ж яны будуць, калі гарадскога бюджэту ледзьве хапае на выплату зарплаты бюджэтнікам. Дый тую выплочваюць з затрымкамі. А затое ёсць чым заплаціць расійскім зоркам за другаякасныя канцэрты, ёсць сродкі на імгненнае дабраўпарадкаванне месцаў, дзе плануюць прайсціся высокія мінскія дэлегацыі, ёсць грошы на дарагія аўто і паліва да іх, каб развозіць чыноўнікаў з хаты на працу ды па іншых, не надта службовых справах.

Тым не менш, карэспандэнт "ГС" звярнуўся па каментарый па закранутаму пытанню да дырэктара Слонімскага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Канстанціна Зубко.

— Усяго на сённяшні дзень па Слоніму заасфальтавана 53% дарог, — сказаў Канстанцін Сяргеевіч. — Але зрабіць якаснае дарожнае пакрыццё на астатніх 47-мі працэнтах няма магчымасці. У тым ліку і на вуліцы Цагельнай, бо яна не з'яўляецца градаўтвараючай. Высыпаць вуліцу шчэбнем — таксама каштуе грошай. Але ж мы рэгулярна, раз у паўгода вуліцу падчышчаем.

— Застаецца чакаць лепшых часоў, — завяршыў размову Канстанцін Зубко.

Больш нам і сапраўды нічога не застаецца.

**Валерый КАВАЛЕНКА**

МНЕНИЕ

# РАЗОЙДИСЬ?!

**Считается, что самыми дисциплинированными и самыми организованными были люди в погонах. Даже с уходом в запас или в отставку они продолжают жить особой жизнью, с обострённым чувством армейского товарищества и плеча.**

Поэтому Белорусский Союз офицеров и был призван коллективно решать накопившиеся проблемы в жизни не только снявших погоны, но и продолжающих служить офицеров, прапорщиков, старшин и сержантов сверхсрочной службы. Этим обусловлена была и численность структур БСО, так как членами организации автоматически становились вышеназванные категории по месту жительства. К примеру, в Слонимском районе таких членов Белорусского Союза офицеров насчитывалось почти 7 тысяч. Но, как известно, количество даёт качество. Значимых дел в работе не наблюдалось. Ко всему этому, со временем изменились не только Уставные требования Союза, но и назрела необходимость, согласно Декрета Президента РБ, перерегистрации всех политических и общественных структур.

Новый Устав БСО закрепил фиксированное (и это справедливо) членство в организации, уплату взносов и многое другое. И оказалось, что в Слониме только 8 человек из почти семитысячного отряда бывших военнослужащих заявили письменно о своём членстве в БСО. Почему так получилось? Причин этому несколько. Первая: за несколько последних лет ни разу не состоялось общее собрание районной организации Союза офицеров. Руководящие органы не переизбирались, а значит и не отчитывались о работе. Второе: организация утратила свой вес в решении многих вопросов, касающихся не только людей в погонах, но и затрагивающих жизнь города.

Прошло уже почти три месяца с момента проведения последнего съезда Белорусского Союза офицеров. Хотя он был созван совсем для других целей, а именно демонстрации решения поддержки нынешнего главы государства на предстоящих выборах по выдвижению в Президенты на очередной срок, делегатам всё же удалось поднять и ряд волнующих вопросов. Среди них: упразднение ряда законов и норм, предусмотренных договорённостями в рамках стран СНГ для военнослужащих, дальнейшее дробление ветеранских организаций на ассоциации интернационалистов, ликвидаторов, ветеранов ВС и труда. Поэтому не удивительно, что широкой огласке результатов работы и решений этого съезда не последовало. Все прекрасно понимают трудности сегодняшней жизни, и не только "служивые" люди, но и их семьи после. Вопросы жилья, медицинского обслуживания, трудоустройства становятся проблемами для сотен людей. Возможно, поэтому пассивное руководство нашей местной структуры БСО так за два года и не приложило усилий для постановки на учёт своей организации в управление юстиции Гродненского облисполкома.

**Виктор ГЕРАСИМЧИК, капитан запаса**

# ІХ ПРАЦА – ПОДЗВІГ

*Не так даўно мне прыйшлося быць на лячэнні ў вокавым аддзяленні Слонімскай бальніцы. Я быў уражаны тым, у якіх умовах працуюць там дактары. Вядома, будынак не для лячэбнай установы. Але няўжо начальства, як горада, так і бальніцы, не бачыць, што сцены і столь пачарнелі ад вільгаці? Латкі, па якіх сцякае вада на стыках даху, завалены смеццем і зараслі імхом. Вада з-за гэтага цячэ праз край латка і трапляе ў палаты, сцены якіх вільготныя і мокрыя. Санітаркі пастаянна выціраюць лужыны, якія збіраюцца на падлозе.*

*Вядома, начальства скажа: "Нет денег на ремонт". Але скажыце, калі ласка, колькі трэба грошай, каб спіхнуць тое ж смецце з латкоў даху, каб вада не трапляла на ложкі хворых?*

*Пенсіянер Іван Якаўлевіч НЕСЦЯРОВІЧ*

*P.S. Па каментарый карэспандэнт "ГС" спачатку звярнулася да загадчыка вокавага аддзялення Міхаіла Старыка. На пытанне "Ці плануецца рамонт будынка ў бліжэйшы час?" Міхаіл Парфір'евіч адказаў: "Да зімы плануецца адрамантаваць дах будынка. А ў вогуле, наш будынак — вельмі стары. Яму амаль 4 стагоддзі. Калі яго будавалі для касцёла, то была добрая сістэма вентыляцыі. З цягам часу гэтая сістэма сапсавалася. Таму сцены ў палатах вільготныя.*

*У будучым часе будзе пабудавана новае аддзяленне ў Альбярціне".*

*Прабыўшы ў вокавым аддзяленні некалькі хвілін, я здзівілася, як жа можна працаваць у такіх умовах і як можна класці туды людзей на лячэнне? Там непрыемна пахне, сцены калідораў пачарнелі ад вільгаці. "Цяжка нам прыходзіцца, — кажа Міхаіл Парфір'евіч, — зімою дым ад пячнога ацяплення трапляе ў палаты. Людзям кепска дыхаць. І аб якой стэрыльнасці можна казаць?".*

*Галоўны ўрач слонімскага тэрытарыяльнага медаб'яднання Юрый Пяцельскі сказаў, што рамонт вокавага аддзялення хутка пачнецца. "Спачатку адрамантуюць дах, — сказаў Юрый Уладзіміравіч, — потым зробім належны выгляд унутры будынка. А што тычыцца новага памяшкання, то да канца гэтага года мяркуем закласці падмурак".*

*А пакуль што, як хворым, так і ўрачам вокавага аддзялення прыходзіцца вельмі цяжка. Пры ўваходзе ў гэты будынак вісіць плакат, які, памойму, якраз прыходзіцца да месца: "Их труд – повседневный подвиг". У такіх умовах, гэта, сапраўды, подзвіг.*

***Вольга ШЫНКЕВІЧ***




*Так сёння выглядае адна з палат вокавага аддзялення*

Працяг тэмы. Пачатак у N37







***Непадуладныя "вертыкалі" назіральнікі пацвярджаюць, што выбары сапраўды былі тайнымі — ад народа. Але ж калі ад нас "нешта" ўтойваюць, значыць гэтае "нешта" — нядобрае. Мы пакрысе "вымiраем", і гэта не ад добрага жыцця. А, згодна афіцыйных дадзеных, за гэта "добрае жыццё" у 2001 годзе прагаласавала ў 2-2,5 разоў больш людзей, чым 7 гадоў таму. Сумна, што сярод кіраўнікоў участковых камісій знайшлася вялікая колькасць людзей, здольных падпісаць любы дакумент. Тым не менш, выбары паказалі, што ў нас ёсць жаданне, імкненне жыць па-іншаму, лепей. Упэўнены, што хутка ў нас стане і сілы волі здзейсніць гэта.***

## НАЗІРАЛЬНІКІ СВЕДЧАЦЬ

### г.Слонім

**Заводскі ўчастак №15**

"Першае, што разумееш за сталом для назіральнікаў — гэта тое, што правоў у цябе няма аніякіх. На выбарчым участку сталы для назірання размешчаны такім чынам, што само назіранне, фактычна, выключалася. Назіральнікі маглі толькі глядзець на урну для галасавання і выбарчыя кабінкі. Сталы, дзе сядзела камісія, не былі бачны. Вядома, што фальсіфікаваць вынікі лягчэй не падчас галасавання, а пры падліку бюлетэняў. Калі пачаўся падлік бюлетэняў і я памкнуўся выйсці з-за стала назіральнікаў, каб нешта ўбачыць, то старшыня камісіі Канстанцін Зубко прыгразіў выдаліць мяне з участка."

**Зміцер Саламевіч,
слухач Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Украіны,
назіральнік ад аб'яднання "Воля да развіцця".**

**Новы ўчастак №9**

"Во время предварительного голосования насторожило то, что комиссия не давала абсолютно никакой информации. Мне не назвали даже количество полученных комиссией бюллетеней, не говоря уже о том, чтобы показать их мне, а тем более дать пересчитать и, вообще, иметь возможность контролировать, откуда, куда и в каком количестве убывают (прибывают) бюллетени.

9 сентября избирательный участок закрылся ровно в 20.00. В соответствии с избирательным кодексом, первой была вскрыта урна для предварительного голосования. В полной тишине члены комиссии брали из общей кучи бюллетени и раскладывали их по стопкам (раздельно за каждого кандидата) и записывали результаты на специально выданную бумажку. Заместитель председателя комиссии А.Случко тут же забирала у членов комиссии бумажки с цифрами и подсчитанные бюллетени. Бюллетени она складывала в одну стопку (таким образом, смешивая их), а бумажки с цифрами отдавала председателю комиссии Ольге Головенко, директору СШ №3. Также, забрав у членов комиссии бумажки с цифрами, были смешаны и добавлены к первой стопке бюллетени из переносной урны. В общую кучу пошли и бюллетени дня голосования.

Потом председатель комиссии единолично, за две минуты сделала подсчёт и объявила итоги выборов на участке. Какие цифры она назвала? Те, которые она получила путём сложения цифр на бумажках? Или иные? Об этом не знают даже члены комиссии. На членов комиссии в этот момент было жалко смотреть: растерянность, униженность, безысходность и тоску увидел я в их глазах. Они стояли вокруг пустого стола и избегали смотреть в глаза друг друга.

Конечно, они не ожидали такого нахальства со стороны своей директрисы, не думали, что она так "элегантно" посчитает бюллетени. Но всё же, можно ли оправдать молчание и покорность членов комиссии?! Почему они не потребовали провести подсчёт голосов в соответствии с Законом? Возможно, страх перед начальством перевешивает ответственность перед избирателями.

Хочется верить, что Ольга Головенко посчитала и правильно, и честно. И обязательно поверю, если она объяснит, почему организовала подсчёт бюллетеней в нарушение Закона и наперекор здравому смыслу."

**Виталь Ешану,
рабочий, наблюдатель от объединения "Воля да развіцця"**

### Слонімскі раён

**Сурынскі ўчастак №7**

"У чацвер, 6.09., быў арганізаваны падвоз работнікаў з фермаў на ўчастак, каб яны прагаласавалі датэрмінова. Калектыў аддзялення сувязі атрымаў пісьмовае распараджэнне прагаласаваць датэрмінова. У запрашэннях на выбары быў зроблены падлог. Выраз з выбарчага кодэкса "калі выбаршчык не будзе знаходзіцца ў час выбараў на месцы жыхарства, ён можа прагаласаваць датэрмінова" быў зменены на "калі не будзе мець магчымасці".

**Леанід Журовіч,
дырэктар Рахавіцкай СШ,
назіральнік ад аб'яднання "Воля да развіцця"**

**Навасёлкаўскі ўчастак №27**

"09.09.2001 года непасрэдна на ўчастку прагаласавала менш ста чалавек, гэта значыць, не больш 11% усіх выбаршчыкаў. Больш за 700 чалавек прагаласавалі датэрмінова і ў выязныя урны. Пры падліку галасоў нас, назіральнікаў, да стала, дзе падлічваліся бюлетэні, не падпусцілі. Яшчэ ў дні датэрміновага галасавання я звярнуўся да сакратара камісіі Лагуцік Наталлі Аляксандраўны, што з-за стала назіральніка нічога не відно. Яна адказала: "Гэта вашы праблемы".

**Іосіф Міхайлаў,
настаўнік Навасёлкаўскай СШ, назіральнік ад аб'яднання "Воля да развіцця"**

### Мастоўскі раён

"Падчас датэрміновага галасавання (04.09.) старшыня сельсакага Савета Маскаль і старшыня калгаса Броска аўтобусам вазілі людзей галасаваць на Харціцкі ўчастак. Гэтак жа рабілася ў гэты дзень і ў вёсцы Курылавічы. Старшыня раённай выбарчай камісіі адмовіла прадаставіць карэспандэнту "ГС" інфармацыю па выбарах.

На бацькоўскіх сходах у мастоўскіх СШ №3 і СШ №5 намеснік старшыні райвыканкама Таіса Мурына заклікала бацькоў галасаваць датэрмінова і менавіта за Лукашэнку. Тая ж Таіса Мурына і загадчык раённага аддзела адукацыі Мікалай Ярмак і ягоны намеснік Тамара Крот папярэдзілі настаўнікаў Пілкаўскай базавай школы Ірыну Кароль, Святлану Буловіч, Міхала Аленіча і Лявона Карповіча аб тым, што калі яны не адмовяцца быць назіральнікамі, то будуць зволены з працы. Настаўнікі адмовіліся выканаць гэтае распараджэнне.

У в.Мікелеўшчына на бацькоўскім сходзе старшыня ўчастковай камісіі Гардзіеўская (яна ж і дырэктар гэтай школы) заклікала бацькоў галасаваць за Лукашэнку.

**Язэп Палубятка,
Мастоўскі раён**

### Зэльвенскі раён

**Зельвенско-пушкинский участок №28**

"Стол наблюдателей находился в 7 метрах от столов комиссии, так что наблюдать можно было, а увидеть — нет. Когда 9 сентября после 20.00 начался подсчёт голосов, то бюллетени из всех урн были высыпаны в одну кучу. Подсчет проходил молча. Никто вслух результаты не сообщал. Потом секретарь комиссии собрала данные у членов коммисии и вместе с председателем комиссии они ушли в другой кабинет. По возвращении секретарь объявила общие итоги выборов на участке. Некоторые люди, которых я лично знаю, точно голосовали против всех. Но, по официальным данным, ни одного бюллетеня против всех не было".

**Игорь Панасик,
предприниматель, наблюдатель от общественного объединения "Воля да развіцця"**

### Дзятлаўскі раён

**Лявонавіцкі ўчастак №5**

"Сталы для назіральнікаў стаялі больш чым за 10 метраў ад сталоў, за якімі працавала ўчастковая камісія. Старшыня сельскага Савета Грамадская Антаніна Андрэеўна ўмешвалася ў працу камісіі, давала ёй указанні. Мне ж яна неаднаразова перашкаджала выконваць абавязкі назіральніка. Напрыклад, калі я папрасіў камісію паказаць спіс людзей, якія будуць галасаваць па месцы жыхарства праз пераносныя урны, то Грамадская А.А. пачала нервова крычаць на мяне "Хто ты такі" і г.д. Урэшце, міліцыянер, які прысутнічаў на ўчастку, папрасіў супакоіцца. Хаця крычала толькі адна старшыня сельсавета."

**Пётр Цярэшка,
прадпрымальнік, назіральнік ад грамадскага аб'яднання "Воля да развіцця"**

### Ваўкавыскі раён

"9 сентября, в результате недопущения представителей общественных объединений "Вясна" и "Фонд Льва Сапеги", независимые наблюдатели остались только на 19-ти участках. На этих 19-ти участках использовалась следующая методика подсчёта голосов:

• бюллетени предварительного голосования, голосования на дому и голосования на участке подсчитывались не раздельно, а смешивались в одну кучу;

• подсчёт голосов был тайным от наблюдателя;

• председатели участковых комиссий, получив от каждого из членов комиссии данные о подсчитанных бюллетенях, суммировали эти данные сами, без участия членов комиссии, а иногда и в другой комнате;

• на некоторых участках использовались не заполненные, но заранее подписанные протоколы;

• не везде наблюдателям выдавались копии протоколов о результатах голосования.

Такая методика имела "успех". Самый маленький процент голосов за А.Лукашенко — 62%, максимальный — 95%. Похоже на то, что процент голосов "за" А.Лукашенко зависел и от моральных качеств председателей участковых комиссий. Особый случай — Волковысский участок для голосования №15. Это воинская часть. Здесь за А.Лукашенко проголосовало 90 человек из 90 по списку, то есть 100%. Ещё одна особенность. Если в период предварительного голосования наблюдателям просто не предоставлялась информация, ссылаясь на то, что была соответствующая команда из районной избирательной комиссии, а отношение со стороны участковых комиссий было нормальным, то после 8 сентября — как отрезало. 9 сентября, в день голосования, отношение председателей комиссий к наблюдателям стало резко негативным."

**Николай Ковальчук,
координатор независимого наблюдения.**

## "ОХОТА" НА МОЛОДЁЖЬ

**Накануне выборов Президента Беларуси слонимское отделение КГБ, подключив милицию, организовали "охоту" на активистов местных молодёжных организаций.**

Так, на дом к руководителю Слонимского молодёжного объединения "Ветразь" Алесю Масюку сотрудники милиции дважды привозили повестки с вызовом в милицию в качестве свидетеля. Первая повестка — на 9.00 (суббота) 8 сентября, а вторая — на 9.00 (воскресенье) 9 сентября. Около 17.00 09.09.2001 уже сотрудники Слонимского КГБ приехали домой к А.Масюку и передали его домашним свою повестку с вызовом на 17.00 этого же дня, но вот в самой повестке почему-то стояла дата вызова на 8 августа 2001 года.

В эти дни самого А.Масюка дома не было. Когда же он возвратился домой и 12.09.2001 года прибыл в Слонимский ГРАУС, то сотрудник уголовного розыска Суша, который и вызывал Масюка повестками, сказал: "Уже ничего не нужно. Иди гуляй".

А вот 18-летнему слонимцу Александру Жуковскому 9 сентября, когда он впервые воспользовался своим, совсем недавно полученным правом избирателя, довелось дважды побывать в "органах". С утра по повестке того же Суши он прибыл в милицию, и его два часа расспрашивали о каких-то цыганах. Потом отпустили. В этот же день в 17.00 к А.Жуковскому домой приехали сотрудники слонимского КГБ и завезли к себе в отдел на Комсомольскую, 21. В отделе его заставили писать объяснительную, чем он занимался три последних дня — с 7 по 9 сентября. В частности, сотрудники КГБ обвиняли Жуковского, что он будто бы распространял листовки с призывами к насильственному свержению власти Лукашенко, и пытались заставить его написать, что в своей деятельности он тесно сотрудничает с Алесем Масюком.

То, что это происходило в выходные дни, подталкивает к мысли, что милиция и КГБ стремились не допустить, чтобы молодые люди поехали в Минск на акцию в поддержку единого кандидата от оппозиции Владимира Гончарика, которая состоялась вечером 9 сентября.

**Алесь ТИШКЕВИЧ**

■ **Да друку падрыхтаваў Міхась ВАРАНЕЦ**

## НОВЫЙ НАБОР В "ЛЕОНУ"

**С пятницы, 21 сентября, начинается новый набор в школу моделей "Леона".**



Фота Віталя Гіля

*Одна из воспитанниц "Леоны" — Инга Заяц*

Напомним, что эта школа юных моделей была организована несколько месяцев назад слонимчанами Вероникой и Виталием, которые учат девочек дефиле (основам правильной походки), этикету.

В будущем у юных слонимских моделей есть шансы сотрудничать с ведущими модельными агентствами города Минска, такими как "Тамара", "Zara" и т.д.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

## ВЯРНУЎСЯ ТЭАТР З ГАСТРОЛЯЎ

**Слонімскі беларускі драматычны тэатр вярнуўся з Гродна.**



Фота Віталя Гіля

*Сцэна са спектакля "Чужыя грошы"*

Упершыню ў абласным цэнтры праходзілі пяцідзённыя гастролі тэатра са Слоніма. Іх арганізавала ўпраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама.

Гродзенскія гледачы пагледзелі пяць спектакляў — тры для дарослых і два для юных гледачоў. Найбольш апладысментаў заслужылі дзіцячыя спектаклі "Дзень нараджэння" і "Жыла-была Сыраежка". 7 кастрычніка ў Слонімскім драмтэатры адбудзецца адкрыццё новага тэатральнага сезона.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ТЫМ, ХТО ВАЯВАЎ У АФГАНІСТАНЕ

**У Слонімскім краязнаўчым музеі імя Іосіфа Стаброўскага для наведвальнікаў хутка адкрыецца новая зала.**

Яна будзе прысвечана слонімцам, якія загінулі і ваявалі ў Афганістане. Тут будуць экспанавацца асабістыя рэчы воінаў-інтэрнацыяналістаў, пісьмы, дакументы і іншыя рэчы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



# УШАНАВАЛІ СЛАВУТАГА АГІНСКАГА

**У Маладзечна каля музычнага вучылішча быў адкрыты помнік вядомаму беларускаму дзяржаўнаму дзеячу і кампазітару Міхалу Клеафасу Агінскаму (1765–1833).**

Многім вядомы яго славуты паланез ля-мінор "Развітанне з Радзімай". Праўда, часцей яго называюць проста "Паланез Агінскага". Гэты паланез і сёння разглядаецца ў якасці варыянта новага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь.

Помнік у Маладзечна — першы помнік Міхалу Агінскаму ў свеце (скульптар Валяр'ян Янушкевіч). І ён нездарма з'явіўся менавіта ў гэтым горадзе. Справа ў тым, што мясцовае музычнае вучылішча носіць яго імя, а паміж Маладзечнам і Смаргонню знаходзіўся маёнтак Залессе, дзе жыў і пісаў музыку кампазітар.

Я па-добраму зайздрошчу маладзечанцам, што ў іх горадзе адкрываюцца помнікі, праводзяцца нацыянальныя музычныя фестывалі, ушаноўваюцца імёны знакамітых людзей. Хаця, я лічу, што аддаць даніну памяці Агінскаму маглі і слонімцы; дзяцінства Міхала Клеафаса Агінскага прайшло ў Слоніме ў яго дзядзькі, вядомага гетмана Міхала Казіміра Агінскага. Па яго ініцыятыве быў пракапаны ў Слоніме канал, які носіць яго імя. У той час наш Слонім з'яўляўся буйным культурным цэнтрам. З прыгонных сялян гетман арганізаваў сімфанічны аркестр і тэатральную трупу, якая ставіла драмы, оперы і балеты. Будучага кампазітара ў Слоніме вучыў музыцы лепшы тагачасны выкладчык Іосіф Казлоўскі. Пад яго кіраўніцтвам Міхал Агінскі напісаў некалькі фартэпіянных п'ес, юнак хацеў стаць кампазітарам.

Але не ў музыцы бачылі прызванне Міхала яго родныя. А найперш у дыпламатычнай службе, у дзяржаўнай. Ён назначаецца паслом, жыве і працуе ў Галандыі, Англіі. Даведаўшыся пра падзел Рэчы Паспалітай, Агінскі вяртаецца на Радзіму, прымае ўдзел у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Пасля паражэння паўстання адважнаму патрыёту прыйшлося эмігрыраваць за мяжу. І толькі тады, калі на царскі трон у Расіі прыйшоў Аляксандр І, Агінскаму даюць дазвол вярнуцца на Бацькаўшчыну. Ён едзе ў Пецярбург і... атрымлівае назад усе свае маёнткі. А ў 1810 годзе Агінскаму даюць пасаду сенатара і прызначаюць даверанай асобай імператара, выбіраюць ганаровым членам Віленскага ўніверсітэта...

Памёр Міхал Клеафас Агінскі ў Фларэнцыі ў 1833 годзе і пахаваны ў старажытным кляштары Санта Крочэ.



*Помнік Міхалу Агінскаму ў Маладзечна*

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# "ЭТУАЛЬ" ПРИПОДНЕС СЛОНИМЦАМ "ТЕКИЛУ-ЛЮБОВЬ"



Фота Віталя Гіля

**В субботу, 15 сентября, народный театр моды "Этуаль" слонимского РДК выступил перед жителями нашего города со своей новой программой под названием "Текила-любовь".**

**На шоу пришло много людей, интересующихся искусством. Программа выступления была насыщена не только новыми показами одежды, но и песенными, художественными номерами.**

**Пришедшие на концерт слонимчане отдохнули душой на славу.**

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

НАВІНЫ КНІГАРНІ

## "ЗАЛАТАЯ ДЗІДА" АЛЯКСЕЯ ЯКІМОВІЧА

**У дзяржаўным выдавецтве "Юнацтва" выйшла з друку кніга прозы нашага земляка Аляксея Якімовіча "Залатая дзіда".**



Кніга выйшла ў рамках папулярнай беларускай серыі "Бібліятэка прыгод і фантастыкі". У гэтай серыі раней свет пабачылі ўжо тры кнігі празаіка са Слоніма. Гэтыя выданні таксама мелі загадкавыя і незвычайныя назвы — "Эльдарада просіць дапамогі", "Сакрэт Тунгускага метэарыта", "Пастка для пярэваратня".

Аляксей Якімовіч піша для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Яго кнігі цікава і лёгка чытаюцца і ніколі не залежваюцца на паліцах кнігарняў.

"Залатая дзіда" складаецца з двух аповесцей. Адна з іх прысвечана старажытнай Беларусі, а ў другой чытачы даведаюцца аб фантастычных прыгодах герояў у Лацінскай Амерыцы.

Акрамя аповесцей у кнігу нашага земляка ўвайшлі яшчэ некалькі апавяданняў.

## ПЕРАКЛАДЫ ЕНСКІХ РАМАНТЫКАЎ

**Наш зямляк Алег Лойка не навічок на ніве перакладчыцкай дзейнасці. Ён пераклаў на беларускую мову творы П.Верлена, І.Гётэ, М.Някрасава, Зульфіі, Р.Гамзатава і паэтаў іншых краін.**



Новая кніга Алега Лойкі называецца "Сузор'е". Паэт пераклаў на беларускую мову вершы нямецкіх паэтаў Наваліса, Шлегеля, Шэлінга і Эйхендорфа — рамантыкаў з Ены.

Кнігу "Сузор'е" склалі вершы паэтаў на нямецкай мове і паралельна — на беларускай. Аб чым яны? Вершы вельмі розныя, але аб'ядноўвае іх філасофская думка XIX стагоддзя, найперш гэта радкі народна-песеннага і баладнага складу.

## ШЛЯХ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**"Старабеларуская літаратура" — так называецца новы падручнік для студэнтаў, які напісаў і выдаў Алег Лойка.**





У кнізе асвятляецца важны перыяд беларускай літаратуры ад часоў Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага да Люблінскай уніі 1569 года.

Алег Лойка цікава і грунтоўна даследуе вытокі беларускай літаратуры, пакаке еднасць беларускай культуры з культуралагічнымі традыцыямі Еўропы.

Асобныя раздзелы падручніка прысвечаны дзейнасці і творчасці Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Яна Вісліцкага, Міколы Гусоўскага і Францішка Скарыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Газета Слонімская
20 — 26 верасня 2001г. №38 (224)

# Чужынцы роднай зямлі

**Ёсць у Мінску, на тэрыторыі акадэмгарадка ва Уруччы незвычайны музей пад адкрытым небам. Гэта музей валуноў. Там сабрана больш за дзве тысячы разнастайных валуноў са ўсёй Беларусі, дзякуючы якім вучоныя шмат даведаліся пра леднікі і аледзяненне, пра прыродныя катаклізмы далёкага мінулага.**




*"Месяцовы" ландшафт па дарозе на Дварэц*

Доўгі час на валуны, раскіданыя па зямлі, людзі не звярталі асаблівай увагі: "Ну, ляжаць і няхай сабе ляжаць, абы пад нагамі не заміналі". А колькі гора прыносілі і прыносяць яны беларускім сялянам. Колькі працы трэба штогод, каб пазбіраць тыя камяні з поля.

"Колькі ні збірай, а яны, як грыбы, з зямлі растуць", — гавораць людзі. Аднак яны не растуць. Справа ў тым, што зімой, як замярзае глеба, камяні з больш глыбокіх слаёў нібыта выціскаюцца бліжэй да паверхні. А затым ужо дапамагае зірнуць ім на белы свет узворванне глебы.

Дарэчы, усе камяні, якія маюць больш за дзесяць сантыметраў у папярэчніку, называюцца валунамі. Паходзіць гэтая назва ад славянскага "валяць", што даслоўна азначае валяцца ў самых розных мясцінах. Але не пра гэтыя камяні пойдзе гаворка. Адкуль з'явіліся тыя камяні-волаты з неверагоднымі для беларускага ландшафту памерамі?

Калі даследчыкі зацікавіліся валунамі, то здзівіліся. Выявілася, што гэта не мясцовыя камяні. Мясцовыя былі больш маладыя і больш мяккія. А прышэльцы — больш старадаўнія і цвёрдыя. Граніты, парфіры, кварцыты ... Моцныя, дзябёлыя, маналітныя. Не адно стагоддзе прайшло, пакуль вучоныя выявілі, што камяні гэтыя не з Месяца зваліся пад час вывяржэння вулканаў (была і такая гіпотэза), а прынесены ледніком, што некалі пакрываў Паўночную Еўропу.

Разам з ледніком і прыйшлі валуны на Беларусь. У асноўным са Скандынавіі, але ёсць і з Фінляндыі. Сустракаюцца таксама і балтыйскія — выхадцы са дна мора.

І ў нас на Слонімшчыне ды Дзятлаўшчыне ёсць цікавыя валуны, якія набылі статут помнікаў прыроды, у тым ліку і рэспубліканскага значэння. А калі прааналізаваць карту геалагічных помнікаў прыроды Слонімскага раёна, то лёгка заўважыць, што большасць валуноў знаходзіцца каля вёсак Кракотка, Рудаўка, Сялявічы. Гэта і не дзіўна, бо тэрыторыя гэта — самая высокая частка Слонімскага ўзвышша, якое на захадзе злучаецца з Ваўкавыскім.

Калі ехаць па шашы з Сялявіч на Кракотку, то на спуску, злева на ўскрайку лесу можна ўбачыць вялізны валун, парослы мохам. Гэта — камлыга Кракоцкая. Слова "камлыга" у беларускай мове азначае "глыба". Даўжыня гэтага валуна 3,5 метры, шырыня — 3,4 метры, вышыня — 1,76 метры. Уяўляе ён сабой чырванаваты граніт. Увогуле, гранітныя валуны — самыя распаўсюджаныя на Беларусі.




*Вучні Сялявіцкай школы вымяраюць Камень з ямкамі*

Камлыга Кракоцкая патроху разбураецца, бо кавалачкі граніту ад яе лёгка адламваюцца. Ды й узрост гэтага валуна вучоныя ацэньваюць у 150-220 тысяч гадоў. Кіламетры са два далей, уніз на Кракотку, ляжыць яшчэ адзін двухсоттысячагадовы волат шэрага колеру — Камень з ямкамі Кракоцкі, помнік прыроды рэспубліканскага значэння. Яго даўжыня каля трох с паловай метраў, вышыня — паўтары метры. На паверхні гэтага валуна захаваліся пяць штучных адтулін, якія маюць культавае значэнне. Чым быў гэты волат для нашых прашчураў, застаецца толькі здагадвацца. І ніякіх паданняў пра гэтыя камяні, на жаль, не захавалася...

Два астатніх валуна ў гэтым раёне ўбачыць ужо нельга. Яны закапаны ў зямлю. Так, Вялікі Камень Рудаўкаўскі, які ляжаў ля грунтовай дарогі, быў закапаны пад час дарожна-будаўнічых работ яшчэ ў пачатку 90-х гадоў. А Вялікаму Каменю Кракоцкаму не пашанцавала з-за яго месцазнаходжання на раллі. Але ж яны існуюць, хоць і пад зямлёй, а шмат валуноў знікла ў выніку іх падрыву дынамітам. Ахова ж валуноў для будучых пакаленняў неабходна. І сёння на Беларусі пад ахову дзяржавы ўзята больш за 50 буйных валуноў. У тым ліку 7 — на Слонімшчыне.

У сярэдзіне 90-х гадоў спробу стварыць сваю калекцыю валуноў ажыццявіла Сялявіцкая сярэдняя школа. З дапамогаю Слонімскага драбільна-сартавальнага завода на тэрыторыю школы было дастаўлена некалькі дзесяткаў разнастайных валуноў. У спалучэнні з дэкаратыўнымі раслінамі гэтая калекцыя, своеасаблівы сад камянёў, упрыгожвае сёння ландшафт школы, дазваляе праводзіць урокі і экскурсіі па геалогіі, служыць наглядным дапаможнікам у вывучэнні прыроды свайго краю.

Валуны адыгрывалі вялікую ролю ў жыцці жыхароў старажытнай беларускай зямлі. Ім пакланяліся, як ідалам, і нават лічылі іх людзьмі, якіх злая сіла пераўтварыла ў камяні.

Прыгожая легенда існуе пра Расколаты камень Альбярцінскі. Кажуць, у старажытныя часы ўнадзіўся прылятаць да людзей Змей трохгаловы. І забіраў той Змей штогод даніну — найпрыгажэйшую з дзяўчат. Нічога людзі зрабіць у сваю абарону не маглі, — ці то баяліся, ці то прызвычаіліся, невядома. Але ж у адзін год прыляцеў Змей за чарговай дзяўчынай, ды не атрымаў нічога. Бо выклікаў яго на бой смяротны юнак, каханы той дзяўчыны.

Тры дні і тры ночы біўся юнак са Змеем і толькі-толькі перамагаць стаў, аж бачыць — меч булатны ў руцэ маладзецкай прытупіўся, не ссячы ім галовы Змею. Хвілінку б якую юнаку ды каменьчык, каб меч падтачыць, ды Змей усё нахабней насядае. Як піцьдаць, не знасіць бы галавы самому хлопцу, ды закрылі яго багі камянём вялікім у той самы момант, як змееў меч на юнака апускацца пачаў. Такі магутны ў Змея ўдар быў, што рассек меч камень той. Ды толькі так у ім і застаўся.

А хлопец тым часам свой меч хуценька натачыў, выскачыў з-за каменя ды й адсек Змею ўсе тры яго галавы. З тых часоў і не стала ў людзей напасці гэтай — дзяўчат сваіх нячыстай сіле аддаваць...

На самой жа справе Расколаты камень — гэта горная скала, якая складаецца з двух асобных, зліпшыхся, розных па форме і колеру валуноў. Даўжыня каменя 3,5 метра, шырыня — 3 метра і вышыня каля 3,5 метраў. Аб'ём надземнай часткі — каля 27 метраў кубічных. Шчыліна паміж камянямі паступова павялічваецца. Наконт яе існуе і яшчэ адно паданне. Нібыта некалі пан Патоцкі вяртаўся дамоў у Альбярцін, і ў дарозе яго захапіла страшэнная навальніца. Перачакаць непагадзь пан спыніўся ля валуна.

У гэтую хвіліну ўдарыла маланка, патрапіла ў камень, раскалоўшы яго на часткі, але не пашкодзіла пана Патоцкага. У гонар свайго выратавання пан загадаў усталяваць на вяршыні валуна крыж. Яшчэ і сёння можна знайсці паглыбленне ў камяні, дзе, магчыма, і быў замацаваны крыж...

Ёсць цікавыя валуны і ў суседнім са Слонімам Дзятлаўскім раёне. На шашы, непадалёку ад вёскі Дварэц, знаходзіцца незвычайных памераў і формы камень, які ўзнімаецца на ўзгорку злева ад дарогі. Ён здалёк прыцягвае ўвагу, нагадваючы велізарную жабу ці незвычайных памераў грыб.

Пры больш блізкім аглядзе аказалася, што гэта і не камень нават, а спрэсаваная стагоддзямі глыба з пяску і галечніку. І незвычайная форма яе — вынік працы ветру і дажджу. Больш за два метры ў вышыню і каля трох у дыяметры, цуд гэты можа знікнуць праз некалькі год, разбураны непагадою. Шкада будзе страціць гэткую прыгажосць.

Ля вёскі Горка знаходзіцца камень "Волат". Казалі, нібыта праз прасечаныя ў ім вароты некалі праязджаў на тройцы коней тутэйшы пан.

Легендарны камень ляжыць на вяршыні высокай горкі, паблізу ад невялічкай драўлянай каплічкі. Па ўсяму адхілу горкі ўздоўж вузенькай сцежкі трапляюцца надмагільныя крыжы. Гэтае месца са старажытных часоў лічыцца святым. Не апошняя роля ў гэтым і "Волата". Людзі вераць, што вільгаць, якая збіраецца на камяні, дапамагае пры захворванні вачэй.

Зараз камень урос бокам у адхіл і складаецца з некалькіх кавалкаў. Цяжка паверыць, што гэтую арку было магчыма праехаць на тройцы, бо сёння пралезці ў тую шчыліну нават чалавек можа толькі ў два разы склаўшыся. Ды кажуць, што калі тры разы так пралезці, то ўвесь боль у спіне, як рукой, здыме...




*Арка ў камяні "Волату" каля вёскі Горка*

Да зямлі беларускай валуны дабіраліся надта доўга. Апошняе аледзяненне на тэрыторыі краіны было 17 тысяч гадоў назад. Ляднік набліжаўся з хуткасцю адзін сантыметр у гадзіну — сто кіламетраў за тысячу год. Недзе надыход ледніка затрымліваўся, недзе ішоў хутчэй. Але не спыняўся ён ні перад чым. Апускаўся на дно мора, узбіраўся на гару, злізваючы "языком" усё, што ні траплялася на шляху. І, як велізарны бульдозер, штурхаў перад сабой камяні. Потым, сустрэўшыся з цяплом, ляднік адышоў назад, пакінуўшы свой груз. А там, дзе ён пачынаў адыход, заставаліся ўзвышшы і валуны...

Дарэчы, самы вялікі камень-валун на Беларусі знаходзіцца ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці. Гэта "Вялікі камень". Даўжыня яго дасягае адзінаццаці метраў, шырыня — больш пяці з паловай, а вышыня — каля трох метраў.

У наш век асфальту і бетону знікаюць маленькія вёскі, расліны і жывёлы. І толькі каменныя волаты яшчэ застаюцца. Яны — неад'емная частка беларускага краявіду, прыроды і гісторыі, сучаснасці і старажытнасці.




*Расколаты камень Альбярцінскі*

**Сяргей КЛЁСАЎ,**
**настаўнік Сялявіцкай сярэдняй школы;**
**Валерый КАВАЛЕНКА,**
**журналіст "ГС"**




Калі памерла маці, памінальную вячэру ладзілі не ў хаце, хоць была яна ў Дубавіцкіх прасторная і ўтульная, а ў вясковай сталовай. Так вырашыла Андрэева стрыечная сястра Лёдзя:

— Заплацім, то там кухары і згатаваць, і на сталы накрыць памогуць, а дома каму надта ёсць рабіць. Сам ведаеш, радня ў нас невялікая.

Андрэй быў згодны на ўсё. Смерць маці на яго падзейнічала нібы ўдар перуна: была здаровая, жвавая кабета, сенавала ў аселіцы для казы, бо пасля смерці бацькі, якога не стала чатыры гады таму назад, карову яны прадалі.

Маці звычайна завязвала хустку, а ў гэты спякотны летні дзень, калі, здавалася, у цень хавалася ўсё жывое, выйшла сенаваць з непакрытай галавой. Сонца моцна напякло яе, і інсульт, нібы варожая куля, паразіў яе на месцы.

Андрэй тады якраз быў у школе, дзе працаваў настаўнікам гісторыі: рыхтавалі кабінеты да новага навучальнага года. Ён бяліў столь. І калі прыбегла суседская дзяўчынка і паведаміла гэту страшную навіну, як быў у спартыўных штанах і тэнісцы, заляпаных вапнай, так і паімчаў праз усю вёску.

Маці была ўжо мёртвай... Вакол яе на аселіцы стаяла шмат вяскоўцаў, быў урач з сельскай бальніцы, што ўзвышалася непадалёку, на ўскрайку іхняй вёскі Ціханавічы.

— Усё, Андрэй Паўлавіч, — неяк бінавата развёў рукамі доктар. — Як кажуць, смерць на месцы.

Пасля памінальнай вячэры ўсе разышліся па дамах, бо неўзабаве павінны былі прыйсці з поля каровы. Стрыечная сястра Лёдзя таксама пайшла ўпраўляцца па гаспадарцы, і Андрэй адзін зайшоў у сваю пустую хату. Тут усё было так, як і пры маці: Нехта нават прыбраў табурэткі, дзе стаяла труна, паставіў на месца стол, на якім у шклянках з жытам нядаўна гарэлі памінальныя свечкі. Нічога ўжо не нагадвала, што з гэтай хаты некалькі гадзін назад вынеслі нябожчыцу.

На цвічку ля печы вісеў мамін фартух, зялёны, у чорныя гарошыны. У спальні на спінцы крэсла сіратліва месцілася сіняя суконка, святочная, якую маці адзявала ў нядзелю, калі хадзіла да царквы.

— У нядзелю... А сёння серада..., — успомніў Андрэй з тужлівым болем у душы. Ён узяў маміну суконку, прыціснуў яе да твару і заплакаў горка, наўзрыд, як плакаў хіба што ў дзяцінстве. Смерць бацькі ён перанёс лягчэй, а цяпер, калі не стала мамы, не ўяўляў сабе жыцця ў адзінокім, пустым доме. Ён ужо даўно мог мець сям'ю, дзяцей, але жаніцца не спяшаўся, а калі зімой споўнілася трыццаць гадоў, то і наогул не думаў пра гэта. Андрэй быў высокі, стройны, з русымі кучаравымі валасамі і сінімі, як васількі, вачамі. Не адна дзяўчына марнела па ім, але ў яго душы ні разу не засвяцілася іскрынка кахання. А лёгкага, бессэнсоўнага флірту не любіў.

Выплакаўшыся, ён зноў вярнуўся на кухню, дастаў з буфета бутэльку гарэлкі і, наліўшы ў белы эмаліраваны кубак, з якога піў ваду, залпам праглынуў пякучую вадкасць. Праз нейкае імгненне боль на душы крыху сціх. Ён адчыніў акно, за якім ужо амаль сцямнела, і пазіраў у вечаровы змрок.

Стукнулі веснічкі. На дварэ пачуліся крокі. Гэта прыйшла Лёдзя.

— А казу ж ці ты прывёў? Яна была навязана на выгане.

— Не, — адказаў абыякава.

— То я забяру яе да сябе. І парася забяру. Потым разлічымся, бо хіба ты адзін будзеш трымаць гаспадарку? — падышоўшы да самага акна, разважала сястра.

— Бяры. Нічога мне не трэба, — прамовіў ціха.

— Пачакай, ты мусіць выпіў? — здагадалася Лёдзя. Відаць, пачула пах гарэлкі.

— Выпіў.

— Глядзі, гэта брыда можа засмактаць, як багна. Не адзін ужо загінуў з-за гэтай праклятай бутэлькі. Глядзі, Андрэй, — зноў папярэдзіла і пайшла займацца сваімі справамі.

У хаце было душна і неяк вусцішна, адзінока да таго, што ажно браў страх. Ён наліў яшчэ гарэлкі, зноў выпіў і пайшоў на ўзмежак, дзе даўно, колькі сябе памятае, расла старая дзічка. Бацька некалі хацеў прышчапіць яе, але маці не дала: "Няхай будзе так, як мой тата пасадзіў".

І ў дзяцінстве, і тады, калі вучыўся ва ўніверсітэце і прыязджаў на летнія канікулы, ён любіў пасядзець пад дзічкай з кнігай у руках. Тут, у цяньку, было ўтульна і добра, лёгка думалася і марылася.

Праз які тыдзень пачаўся новы навучальны год, і Андрэй быў гэтаму вельмі рады: не так дакучала адзінота, не так балела сэрца па маці. Прынамсі, ад усяго гэтага ён ужо знайшоў лякарства. Тады ж і знайшоў, у першы вечар пасля пахавання. Днём хадзіў рамантаваць школу, а вечарам наліваў сабе кубачак гарэлкі і, часта не вячэраўшы, ішоў пад старую грушу.

Міналі дні. Ён співаўся імгненна, і сам гэта адчуваў. Такая з'ява не стала таямніцай і для вяскоўцаў, і для калег. Аднойчы, у самым пачатку зімы, яго паклікаў да сябе ў кабінет дырэктар:

— Андрэй Паўлавіч, пара з гэтай справай канчаць. Сам ведаеш, пра што кажу.

— Дык я ж працую, вяду ўрокі..., — мармытаў Андрэй у сваё апраўданне.

— Так, як ты цяпер вядзеш урокі, і прыбіральшчыца цётка Люба вяла б. Завуч нядаўна была ў цябе на ўроку, то расказвала. Можа едзь, палячыся, — па-сяброўску шчыра параіў дырэктар. — Ананімна. Цяпер многія так робяць. Вазьмі водпуск за свой кошт і едзь. А мы тут нешта прыдумаем з тваімі ўрокамі, заменім цябе.

Ён паехаў у Даўгапольск, зайшоў псіханеўралагічны дыспансер, дзе лечаць псіхічна хворых і алкаголікаў. Пакуль пажылы стомлены доктар запаўняў гісторыю хваробы, распытваў пра жыццё, самаадчуванне, Андрэй ледзь не згарэў ад сораму: настаўнік-алкаголік, настаўнік-алкаголік, — здавалася, стукала ў скронях кроў.

Санітарка завяла яго ў палату, паказала, дзе вольны ложак. Не паспеў як след агледзецца, паклікалі на абед. У памяшканні, дзе месцілася сталовая, было цёмна і холадна. Сюды са сваімі лыжкамі і кубкамі (бо бальнічных усім не хапала) сыходзіліся алкаголікі: мужчыны і жанчыны, пажылыя і маладыя, нават зусім юныя. Паволі брылі псіхічна хворыя, што ляжалі тут месяцамі, гадамі. Адзінокія, усімі забытыя і пакінутыя, яны з прагнасцю пазіралі на сталы, дзе стаялі міскі з тоненька нарэзанымі кавалачкамі хлеба: кожнаму па два. Адзін псіхічна хворы мужчына, худы і зняможаны, схапіў кавалачак і пачаў прагна жаваць.

— Пакладзі, зараза, на месца! — зароў на яго высокі худы санітар. Ён падбег да няшчаснага і заляпіў яму аплявуху. Каб не падтрымалі іншыя хворыя, мужчына ўпаў бы. Надкусаны кавалачак упаў на стол. А тую часцінку, што паспеў адкусіць, няшчасны чалавек не меў сілы праглынуць. Ён нават і не жаваў, а так і стаяў з поўным ротам.

Усе расселіся за сталы, але яду не падавалі.

— Ну, нарэшце бабулю валакуць, — сказаў адзін з алкаголікаў, што сядзеў побач з Андрэем. — І чаму ў палату ёй не занесці гэтай пахлёбкі? Дык жа не, кожны раз валакуць сюды.

Двое санітараў не вялі, а цягнулі пад рукі малую худую бабулю. Яе ногі валакліся па падлозе, зачапіліся за парог. Нарэшце яе пасадзілі за стол і пачалі раздаваць ежу. Нейкі булён у місцы, крышку бульбы, тушанай з капустай, паўкубачка бурды, што называлі чаем. Праглынуўшы гэта, ніхто з-за стала не варухнуўся, пакуль санітар не скамандаваў: устаць!

На вячэру быў тварог і адно варанае яйка. Назаўтра раніцой усе атрымалі па лыжцы буракоў, што ляжалі з аднаго боку доўгай металічнай талеркі, і па лыжцы пшанічнай кашы, што ляжала з другога. Але Андрэю ніякая яда не лезла ў горла. Ён проста сядзеў за сталом і са страхам, густа перамешаным з жалем і болем, глядзеў на твары псіхічна хворых людзей, худыя, зморaныя, на вочы, у якіх была ў каго туга, у каго проста пустата і нешта незразумелае. Яны нібы глядзелі ў нейкі іншы, толькі ім адным вядомы, свет.

Ён глытаў таблеткі, запіваючы іх вадой, і пасля кожнага разу па загаду фельчара раскрываў рот, паказваў, што не філоніць, лечыцца, як мае быць. Гэта было так агідна і сорамна, што ён не ведаў, куды дзець вочы.

Праз пару дзён Андрэя наведала Лёдзя.

— Я табе курацінy прывезла, каўбасы вэнджанай купіла, — гледзячы на змарнелы Андрэеў твар, жаласліва прамовіла сястра. — Ну, як табе тут?

— Ніяк, — абыякава прамовіў ён.

— Есці я не хачу.

— Бяры, з'ясі, — угаворвала Лёдзя.

Ён узяў торбачку. Гаворка не клеілася, і Лёдзя, пасядзеўшы для прыліку хвілін пятнаццаць, пайшла.

Нават не заходзячы ў сваю палату, Андрэй раздаў сваю яду псіхічна хворым, што нібы цені хадзілі па калідорах. Яны з прагнасцю пачалі запіхваць кавалкі сабе ў рот і, здавалася, нават не жуючы, глыталі.

Андрэй глядзеў на ўсё гэта, і яго сэрца сціскалася ад болю і жалю да няшчасных людзей. І сам ён быў такі адзінокі, як тая дзічка на родным узмежку.

— Што, шкадуеш іх? — ухмыльнуўся санітар. — Будзеш піць, то і табе тое самае будзе, алкаш няшчасны. Бач ты, жаласлівы які. Страляць вас трэба ў чыстым полі. У некаторых краінах, я чуў, дурных пазбаўляюць жыцця. І правільна робяць. А то і самі не жывяце, і другім не даяце.

Андрэй прабыў у гэтых халодных, няўтульных сценах, дзе скапілася столькі чалавечага гора, роўна дзесяць дзён. На адзінаццаты папрасіў у доктара:

— Выпішыце мяне.

— Думаеш, што ўжо вылечыўся?

— А вы думаеце, што можаце мяне тут вылечыць? Тады скажыце, за які час: за месяц? Год?

— А як сабе хочаш, — махнуў рукой стомлены доктар. — Хочаш ісці — ідзі, але я раіў бы паляжаць яшчэ.

— Не хачу.

Вышаўшы за вароты, ён накіраваўся на аўтастанцыю і па дарозе зазірнуў у невялічкую прыватную краму. Купіў бутэльку гарэлкі, цэлафанавы пакет і паклаў бутэльку туды. Ежы ніякай не браў, хоць ведаў, што дома няма нават кавалачка хлеба.

Да вёскі дабраўся, калі ўжо сцямнела. Адамкнуў хату і, не запальваючы святла, наліў у кубак гарэлкі. Перад вачамі стаялі твары людзей, побач з якімі ён правёў дзесяць дзён і адзінаццаць начэй. Душа пякла і смылела, нібы яе пасыпалі гарачым вуголлем.

Ён дапіў усю гарэлку, потым узяў вяроўку, што вісела ў сенях на дручку, і пайшоў да старой дзічкі на ўзмежку. Упоцемках на самым тоўстым суку (ён тут усё ведаў на памяць) завязаў вузел, зрабіў пятлю... У апошні раз зірнуў на зімовае вечаровае неба. Імгненне — і ў дзівосных сініх вачах назаўсёды патухлі далёкія халодныя зоркі, абарвалася тонкая струна далікатнай і пяшчотнай душы...

**Міхась ФІЛІПОВІЧ**

## З ЗАЛЫ СУДА

# АГОНЬ НЕ ДАПАМОГ

**10 верасня слонімскім судом быў асуджаны на 14 гадоў і 6 месяцаў зняволення ў калоніі асобага рэжыму жыхар вёскі Голі Слонімскага раёна 41-гадовы Мікалай Скіба. Суд абвінавації яго ў наўмысным забойстве свайго аднавяскоўца Аляксандра Рукана і ў падпале хаты апошняга.**

Здаецца, сюжэты падобных злачынстваў пішуцца па адной схеме: сумесная п'янка і высвятленне адносін, якое заканчваецца смерцю аднаго з сабутэльнікаў. Так было і ў выпадку з Мікалаем Скібам і Аляксандрам Руканам, калі яны засталіся сам на сам. З судовага прыгавору чытаем: "...Скіба М.І. 16 лютага 2001 года каля 23 гадзін, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, падчас распіцця спіртных напіткаў і ўзнікшай спрэчкі, на глебе асабістых непрыязных адносін, наўмысна, з мэтай забойства нанёс не меней трох udараў нажом па нагах і ў грудную клетку грамадзяніну Рукану Аляксандру Лявонцьевічу... Пацярпелы памёр на месцы.". Цытаваць судовыя дакументы — справа няўдзячная, але ёсць тут адно азначэнне, якое паказвае на дзікі, як можа здацца, нават абсурдны характар гэтага злачынства — фраза "на глебе асабістых непрыязных адносін".

У ходзе папярэдняга следства і судовага разбіральніцтва было ўстаноўлена, што ў той дзень, 16 лютага, Скіба і Рукан у кампаніі з Пасюком (праходзіў па справе як сведка) працяглы час ужывалі спіртныя напоі ў доме бацькі Аляксандра Рукана, які на той час знаходзіўся на лячэнні ў бальніцы. Пасюк пайшоў дамоў прыкладна ў 20 гадзін. Дык якія ж патрэбна было месць "непрыязныя адносіны" Мікалаю Скібу, каб прабыць у кампаніі з Аляксандрам Руканам з 20 да 23 гадзін у хаце апошняга і толькі потым яго забіць? Пазней, у пратаколе яўкі з павіннай, Скіба напіша, што спрэчка паміж ім і Руканам узнікла з-за таго, што апошні пачаў прад'яўляць Скібу прэтэнзіі наконт украдзенага ў яго веласіпеда. Маўляў, веласіпед у яго ўкраў такі ж арыштант, як Скіба (да гэтага двойчы судзімы), а пасля схапіўся за ружжо. Тады Скібу нічога не заставалася, як дастаць нож. У выніку — два ўдары па нагах, адзін у грудзі і смерць Рукана. Затым, як тлумачыць сам забойца, ён спалохаўся і, каб схаваць сляды злачынства, падпаліў хату. Апошняе здаецца зразумелым. Але суд устанавіў, што паляўнічай стрэльбы ў доме Рукана не было. Бацька Мікалая, у мінулым ляснік, здаў зброю, калі выйшаў на пенсію. Такім чынам, падстаў верыць у версію забойства пры самаабароне ў суда не было. Заставаўся факт. І матывы, якія класіфікавалі, як асабістыя непрыязныя адносіны двойчы судзімага алкаголіка (судом прызначана таксама прымусовае лячэнне ад алкагалізму) Мікалая Скібы да Аляксандра Рукана. Ні з карысці забіў чалавека Скіба, і дом, поўны дабра, спаліў ні з зайдрасці. Атрымліваецца, што забіў проста падчас п'янай спрэчкі, ад раптоўна ўзнікшай нянавісці, а спаліў, зразумела, ад страху. І той факт, што праз тры дні, 19 лютага, сам з'явіўся з павіннай — ніякая не дастаеўшчына. Інстынкт самазахавання спрацаваў. Усё роўна следчыя дакапаліся б да ісціны. Тым больш у вёсцы, дзе тайнае вельмі хутка становіцца яўным. Так яно, зрэшты, і здарылася. Ні агонь, ні яўка з павіннай не дапамаглі злачынцу ўхіліцца ад суровага пакарання.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

Газета Слонімская
20 — 26 верасня 2001г. №38 (224)

Іван ЦІМАФЕЙЧЫК

## Вясельная развітальная

*За ваша здароўе,*
*хто ладзіў вяселле,*
*кульнём напаследак:*
*хто чарку, хто келіх.*
*А вам, маладыя,*
*мы зычым-жадаем,*
*каб поўніўся век ваш*
*узнёслым каханнем.*
*Хай шлюць вам сузор'і*
*здароўе і сілу,*
*хай мілым ён будзе*
*і ты яму мілай.*
*Анёл хай прыходзіць*
*да вас кожнай ночкай*
*і дорыць штогодня*
*сыночка і дочку.*
*Калі пашанцуе,*
*дык двойню ці тройню:*
*за вашае вып'ем*
*і дзетак здароўе.*
*Да краю хай поўніцца*
*радасцю чаша...*
*Былі на вяселлі вы*
*гонарам нашым.*
*Мы вас пакідаем,*
*але ненадоўга, —*
*няхай немаўлятка*
*пакліча ў дарогу.*
*Бывайце здаровы,*
*жывіце заможна,*
*шчыруйце, кахайце,*
*любіце, як можна..!*
*Прыдбалі натхненне —*
*дамоў захацелі.*
*Мы вас не забудзем*
*і ваша вяселле.*
*Бывайце здаровы,*
*жывіце заможна,*
*а мы вашу радасць*
*на шчасце памножым!*
*Памножым, памножым,*
*яшчэ раз памножым!*
*Бывайце здаровы,*
*жывіце заможна!*



Станислав БУХНАЦЕВИЧ

*Родился в д.Марковичи Новогрудского воеводства в 1930 году. В 2-летнем возрасте лишился отца, а в 14 лет остался и без матери.*

*В 1949 году был осуждён на 25 лет политических лагерей. Отсидел 15 лет, 2 месяца и 8 дней. После освобождения из ГУЛАГа, в 1964 году устроился на Слонимский шиноремонтный (теперь авторемонтный) завод, где и проработал 30 лет до пенсии.*

*Станислав Адамович в своё время окончил 1 класс польской школы, 2 класса немецкой и 2 русской. Со стихами в "Газеце Слонімскай" выступает впервые.*

## Рождение могил

*Гуляют люди и безмерно*
*От горя хлещут водку,*
*А между ними ходят черти*
*И составляют сводку:*
*Кого в последний путь*
*отправить,*
*Кого на преступление,*
*Кому жестокости*
*прибавить,*
*Чтоб не нашёл спасения.*
*А смерть в кустах*
*куском гранита*
*Прилежно косу точит*
*И ядовитою слюною*
*Костлявый палец мочит.*
*Когда коса будет готова*
*И прекратится скрежет,*
*То смерть незримо снова*
*Кого-нибудь зарежет.*
*И так*
*на пустыре могильном,*
*По воли тайной силы,*
*Слезами увлажнённые,*
*Рождаются могилы.*

## Подхалим

*Всегда с улыбкой принуждённой*
*И скользкий, гибкий,*
*как налим,*
*Нечистой силою рождённый,*
*Живёт на свете подхалим.*
*Ему не важно,*
*с кем общаться,*
*С какой подошвы грязь лизать.*
*Он точно знает,*
*где сгибаться,*
*А где*
*и в полный рост шагать.*
*У такого человека*
*(Коль можно так его назвать)*
*Мечта одна —*
*прожить два века,*
*А если повезёт — и пять.*
*Он создан, словно по заказу,*
*Для тех, кто в мире сеет зло,*
*Он по малейшему приказу*
*Всегда готов, готов на всё.*

## Равноправие

*Лежало тело на земле,*
*Из раны кровь ещё сочилась.*
*Душа нетленная в печали*
*Над телом*
*медленно кружилась.*
*Она незримо то лица,*
*То рук недвижимых касалась,*
*То поднималась к небесам,*
*То снова к телу*
*возвращалась.*
*Она хотела вновь войти*
*Туда, где жила эти годы.*
*Но ей назад возврата нет,*
*Таков закон*
*Творца природы.*
*В гробу безжизненное тело*
*С молитвой в землю*
*опустили,*
*И ангелы на небесах*
*Звезду надежды погасили.*
*Осиротевшая душа*
*Куда идти ещё не знала*
*И над могилой сорок дней,*
*Как верный часовой, летала.*
*Кто предоставил*
*ей приют? —*
*Один Господь*
*лишь только знает.*
*А человек, пока живёт,*
*Святой секрет*
*не разгадает.*
*На наш назойливый вопрос,*
*Что с ней,*
*в каком она жилище? —*
*Ответ один —*
*там все равны:*
*Король, пастух,*
*богач и нищий.*



Фотаэцюд Віталя Гіля

**Восень у Слоніме**



Алесь САСНА

## Просьба

*Прыклаўшы рукі свае*
*да грудзей,*
*Прашу: Гасподзь,*
*дай мне Духа Святога!*
*Прашу для сябе*
*і для ўсіх людзей,*
*Ты не забудзь,*
*не абміні нікога!*
*Доўгаю была да цябе дарога,*
*Прымі дзіця сваё,*
*прымі, якім прыйшоў!*
*Ты бацька мой,*
*я йшоў да бацькі Бога*
*І, дзякуй Богу,*
*я Цябе знайшоў.*

Алена БАЗЮК

## Натурфіласофія

*Кветка цвіце.*
*Чалавек нараджаецца.*
*Руплівая пчолка*
*разносіць пыльцу.*
*Хтосьці кіруе,*
*а хтосьці спрачаецца.*
*Сумна няўдачніку —*
*радасць дзяльцу.*
*Плачуць бабулі старыя*
*на ганку,*
*Моладзь з гулянкі*
*ідзе пехатой,*
*Смокча ў калысцы*
*дзіця абаранку,*
*Хтось патрабуе —*
*уладу далоў!*
*Цягнуцца рукі*
*няшчасных угору —*
*На вуліцы гурба*
*стаіць жабракоў...*
*А хлопцы-малойцы*
*не ведаюць зморы —*
*Гуляюць у карты*
*і п'юць самагон.*



Лилия ПРУДНИКОВА

*У меня нынче началась необыкновенная встреча: с новой жизнью, без школы и её учеников. Впервые за последние 28 лет моей жизни, которая потребовала от меня последовать принципу: главное — уйти вовремя!*

*Ушла с наилучшими пожеланиями тем, кто будет учиться и учить.*

*Дарю всем, кто меня знает, эти стихи.*

## Осенние буквари

*...Вспомните, люди!*
*Вы удивлялись,*
*Что всё ещё зелень*
*кочует по городу,*
*Что листья не пожелтели,*
*не смялись —*
*Зелёные рвутся*
*навстречу холоду!*
*Вы говорили:*
*"Не будет осени,*
*Сразу придёт пурга,*
*Листву не успев*
*ни покрасить, ни сбросить,*
*Деревья уйдут в снега",*
*Но вот поглядите:*
*раз — и нету*
*нигде зелёного цвета!*
*На жёлтых страницах*
*красные буквы,*
*коричневые слова*
*и что-то ещё в неясные очень*
*окрашенное тона!*
*Всё требует удивленья,*
*Восхищения просит...*
*И осина, что раньше*
*молча стояла,*
*Красным листом*
*на коре написала:*
*"Сегодня сюда пришла Осень!"*

## Первый день осени

*Первый день осени.*
*Первое сентября.*
*Слабо ещё изучена*
*тайна календаря.*
*Посмотреть*
*если пристально —*
*всего лишь один из дней.*
*Но сколько из этой гавани*
*выплыло кораблей...*
*Пересчитаем медленно*
*утренние шаги.*
*Хочется крикнуть времени:*
*милое, не беги!*
*Остановись у краешка,*
*не разрывай конверт:*
*Дай посмотреть*
*внимательно,*
*желательно — на просвет.*
*Что там за буквы тайные*
*мне написал сентябрь?*
*Что за дары случайные*
*держит в своих горстях?*
*Белого фартука кружево,*
*чистых тетрадок груз.*
*Спелого и осеннего*
*школьного яблока*
*вкус.*



Елена СЛУЧКО

## Я хочу остаться...

***

*В аромате хвоя*
*И черёмух цвет.*
*Только не с тобою*
*Встречу я рассвет.*
*Тут реки прохлада,*
*Песни соловья.*
*Мне поверить надо,*
*Что я не твоя.*
*Это очень просто...*
*Ты же пережил,*
*Мой сердечный остров*
*Навсегда разбив.*
*На коленях ветер*
*Шепчет у ручья:*
*Не твоя я больше,*
*Больше не твоя.*

***

*Как хочется порою*
*Забыть, про всё забыть*
*И рядом быть с тобою,*
*Любить тебя, любить.*
*Таинственно и нежно*
*Смотреть в твои глаза.*
*Пусть капелькой надежды*
*Покатится слеза.*
*И в голове закружит*
*Твой образ неземной.*
*Ты очень, очень нужен*
*Мне, милый мой, родной.*

***

*Трепетно и нежно*
*Ты вознёс во мне*
*Сладкие надежды*
*И мечты во сне.*
*В поцелуе райском*
*Наслаждаюсь снова,*
*И казалось сказкой*
*Сказанное слово.*
*Я хочу остаться*
*На любви планете.*
*Пусть согреет солнце,*
*Пусть целует ветер.*
*И потом, однажды,*
*На закате дня*
*Ты поймёшь, как важно*
*Быть возле меня.*

Ольга ЯРОШ

## ГДЕ МОЙ ПРИЮТ?..

*Вольга яшчэ вельмі маладая дзяўчына. У яе паэзіі — пытанні ні да кога, боль, часам роспач і... жаданне быць пачутай, імкненне зразумець сябе і сваё месца сярод іншых у гэтым свеце. На дыскеце, якую юная паэтка прынесла ў рэдакцыю, вершаў набярэцца на добрую падборку ў літаратурным часопісе. І хоць у многіх з іх хапае мастацкіх хібаў і агрэхаў, але "пад адной вокладкай" — гэта своеасаблівы лірычны дзённік гераіні нашага часу. У сённяшнім выпуску літстаронкі мы прапануем чытачам "некалькі запісаў" з гэтага дзённіка.*

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## Галлюцинация

*Что-то голое,*
*Что-то малое,*
*Что-то робкое,*
*Что-то усталое.*
*Где-то в душе,*
*Где-то в глазах*
*И где-то в сердце*
*Бродит страх.*
*Почему-то смотрю,*
*Почему-то кричу*
*И не пойму, почему*
*Я любви не хочу?*
*Я только одно*
*Желаю понять,*
*Почему часы застыли*
*На отметке пять,*
*Почему, как сонная,*
*Почему одна,*
*Почему без градусов*
*Я опять пьяна?*
*Почему я вздорная,*
*Почему забавная,*
*И какая цель*
*В этой жизни главная?*
*Зачем же я скромная,*
*Зачем не пугливая?*
*У красивых девушек*
*Душа некрасивая.*
*Где же я? Где?*
*Где мой приют?*
*Его нет — таким, как я,*
*Люди в душу плюют.*
*Ну и пусть.*
*Меня не заботит.*
*Ведь это их*
*От правды колотит.*
*Что же там? Что?*
*Может, морская вода?*
*А может быть то,*
*Что потеряно навсегда?*
*А может там*
*Кусочек тепла?*
*Нет. Его смерть*
*С собой забрала.*
*Там что-то не так,*
*Там чернота*
*Там люди плачут —*
*В их сердцах пустота.*

## Что-то

*Что-то немое,*
*Словно душа.*
*Что-то, не стоящее*
*И ломаного гроша.*
*Что-то обидное,*
*Что-то крохкое,*
*Что-то наивное,*
*Что-то лёгкое,*
*Что-то чистое,*
*Что-то забытое.*
*Словно холодное,*
*Словно убитое...*
*Что-то вязкое,*
*Будто болото.*
*Что-то колкое —*
*Смертельное что-то...*

**Паважаныя сябры!**

**У чацвер, 20 верасня,**
у памяшканні рэдакцыі
**"Газеты Слонімскай"**
(г. Слонім, вул. Камсамольская, 8)
адбудзецца
**пасяджэнне творчага аб'яднання "Літаратурная Слонімшчына".**

*Запрашаем на сустрэчу мясцовых паэтаў і празаікаў са сваімі новымі творамі.*

**Пачатак у 17 гадзін.**

